*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 31(468) 9 ЖНІЎНЯ 2000 г.

## Адбылося чарговае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ

29 ліпеня адбылося паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ. Прысутнічала 30 сяброў Рады ўлучна з старшынём Таварыства Алегам Трусавым, які даў справаздачу аб дзейнасці ТБМ цягам апошніх 4-ох месяцаў (ад часу красавіцкага паседжання). Сябры Рады абмеркавалі змест Пісьмовага папярэджання Міністэрства юстыцыі, у выніку чаго пастанавілі ўжываць на афіцыйных бланках ТБМ дакладную назву арганізацыі, што была зарэгістраваная ў Мінюсце, а таксама вырабіць новы варыянт пячаткі, які б цалкам адпавядаў зарэгістраванай сімволіцы Таварыства.

Старшыня паінфармаваў пра наяўнасць двух узораў Пасведчання сябра ТБМ,ягоныя кошты і парадак атрымання. Новыя Пасведчанні атрымалі ўсе ўдзельнікі паседжання. Ганаровыя першыя два нумары былі замацаваныя за колішнімі старшынямі Таварыства Нілам Гілевічам ды ~~Генадзем~~ Бураўкіным.

Вялася гутарка і пра падпіску на "Наша слова", наклад якой паменеў у III кв. больш чым на 500 асобнікаў. З гэтае прычыны кіраўнікам рэгіянальных структураў было прапанавана разгарнуць напрыканцы жніўня арганізацыйную працу дзеля пашырэння падпіскі.

Напярэдадні паседжання Рады адбылася зыніцыяваная віцэ-прэм'ерам ураду Міхасём Дземчуком сустрэча старшыні Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Радзіма Гарэцкага, старшыні ТБМ Алега Трусава і прэзідэнта Таварыства беларускай школы Алеся Лозкі з міністрам адукацыі Васілём Стражавым па пытанні адкрыцця Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта. Міністру былі перададзены праект Статута і Канцэпцыя БНУ, а таксама іншыя матэрыялы. У сваю чаргу сп. Стражаў запэўніў удзельнікаў сустрэчы, што рыхтуецца дзяржаўная праграма адкрыцця ў вядучых ВНУ Беларусі з 1 верасня 2001 г. беларускамоўных плыняў. Міністр паведаміў таксама, што з 31 ліпеня г.г. у афіцыйным ліставанні Міністэрства будзе выкарыстоўваць на канвертах рэквізіты на дзяржаўнай беларускай мове.

Па выніках гэтай сустрэчы сябры Рады прынялі рашэнне з 1 жніўня працягнуць збор подпісаў за адкрыццё БНУ ў звязак з тым, што беларускі ўрад не падрыхтаваны рэалізаваць ідэю стварэння Нацыянальнага ўніверсітэта. Рэгіянальным структурам ТБМ прапанавана арганізаваць пікеты па ўсёй Беларусі ў падтрымку беларускамоўнага навучання і адкрыцця БНУ.

На Радзе ў шэрагі сяброў ТБМ былі прынятыя грамадзянін Украіны сп. Валер Барташ (Севастопаль) і грамадзянка Казахстану спн. Ніна Азёмава (Паўладар).

## Сёння 90 гадоў з дня нараджэння Ларысы Геніюш - сімвала нескаронасці Беларусі




**Каб не было самотна патрыётам...**

На здымку: Ганна Матусевіч з сям'ёй і Зміцер Туруліс на магіле Ларысы і Янкі Геніюшаў у Зэльве.

***А 6-га жніўня тут прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя 90-годдзю з дня нараджэння Вялікай Беларускі, на якія з'ехаліся, калі не з усёй Беларусі, то з усё Гарадзеншчыны дакладна. 9-га жніўня ўрачыстую імпрэзу ў гонар 90-годдзя з дня нараджэння Ларысы Геніюш ладзяць Сакратарыят ТБМ з Менскай гарадской радай ТБМ.***

## Няспынна растуць шэрагі ТБМ!

Сакратарыят ТБМ на сваім паседжанні 29 чэрвеня прыняў у сябры ТБМ Юлію Чыгір, жонку сп. Чыгіра; вядомага дзеяча амерыканскай беларускай дыяспары Вячку Станкевіча і сп. Вольгу Вавілаву, студэнтку МДЛУ.

Зноў аднавіла сваю дзейнасць Маладзечанская раённая арганізацыя ТБМ (старшыня У.М.Руткоўскі), якая зараз мае 25 суполак і 368 сяброў.

Зарэгістравана Ліёзненская суполка ТБМ (старшыня М.Космакаў), яна налічвае 9 асобаў, суполка ТБМ пры Рассветаўскай с/бібліятэцы Акцябрскага раёна (старшыня Савельева Т.П., 5 чалавек), суполка ТБМ пры кафедры гісторыі беларускай літаратуры філфака БДУ (старшыня Таццяна Казакова – 8 чалавек), а таксама тры новыя суполкі ТБМ у Фрунзенскім раёне г.Менска.

**Сакратарыят.**

## Сябру таварыства беларускай мовы, прафесару, кандыдату эканамічных навук Глафіры Савіцкай споўнілася 60 гадоў

Віншуем Вас з юбілейным годам у Вашым жыцці.

Вы з'яўляецеся аўтарам першага падручніка з грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь на беларускай мове "Аналіз гаспадарчай дзейнасці прадпрыемстваў АПК" і вучэбных дапаможнікаў "Аналіз фінансавага стану прадпрыемства, "Тэорыя аналізу гаспадарання прадпрыемстваў", "Практыкум па аналізу гаспадарчай дзейнасці прадпрыемстваў АПК", а таксама шматлікіх грунтоўных даследванняў на рускай мове, сярод якіх чатыры выданні дапаможніка "Анализ хозяйственной деятельности предприятий", два выданні падручніка "Анализ хозяйственной деятельности предприятий АПК", а ўсяго апублікавана звыш 80 навуковых прац у шматлікіх выданнях. Шмат год выкладаеце аналіз гаспадарчай дзейнасці АПК па-беларуску.



Шчыра віншуем з юбілеем і жадаем моцнага здароўя і плённай працы на карысць нашай Бацькаўшчыны.

**Сакратарыят ТБМ.**

## Віншуем

**Сакратарыят ТБМ ад імя ўсёй сямітысячнай арганізацыі сардэчна віншуе Старшыню Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алега Трусава з Днём Нараджэння.**

**Мы жадаем Алегу Анатольевічу далейшых поспехаў у змаганні за беларускую мову і Беларусь, як мага даўжэй захаваць высокі ўзровень энергіі і ініцыятыўнасці ў гэтай справе. Мы жадаем яму поспехаў ва ўмацаванні ТБМ, павышэнні аўтарытэта арганізацыі,ператварэнні яе ва ўсенародную і агульнапародную. Мы жадаем, каб беларуская мова запанавала на ўсёй Беларусі і ў усёй Беларусі.**

## Вы здольны...

*Акравершы Алегу Трусаву*

Адметную думку - у формуле гнуткай -
Лагічнаю фразай прамовіць у час;
Еўропа ці Азія стрэлкай на сутках -
Гусці ў "Нашым слове" энэргіей мас;
Усмешкаю сціхай ці радасным смехам,
Тугой ці сур'ёзнасцю залу трымаць;
Рукою трыбуну крануць - і без спеху
Убачыць, што твары ў натоўпе гараць;
Сказаць тое слова, што ў сэрца б запала,
Адзначыць дакладна, дзе гнюс, дзе хаўрус;
Вачыма абвёўшы прыціхлую залу
Усклікнуць нягучна: "Жыве Беларусь!"

*Лілея Мялешка.*

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

### Ахвяраванні на ТБМ

1. Алег Лашук (Гомель) 500 р.
2. Зоя Смаршчок (Бельгія) 100 $
3. Надзея Барт (Германія) 20 $
4. Сям'я Бартаў (Германія) 20 $
5. Турук Рыгор (Менск) 1.000 р.
6. Маладзечанская арг-цыя ТБМ 2.000 р.
7. Станішэўскі Віталь (Менск) 206 р.
8. Казлоўская І.І. (Менск) 500 р.
9. Андрэева Еўфрасіньня (руская) Менск 5.000 р.

1. Удзельнікі Усебеларускага з'езду за незалежнасць 24857 р.
2. Вольга Кузьміч (Менск) 2.000 р.
3. Будаўнік з Менску 50 $

1. Іван Касавеуц (в. Ст.Пескі, Бярозаўскі р-н) 1.000 р.
2. Валянціна Гардзіевіч г. Масква 1.000 р.
3. Выдавецтва "Хата" (Менск) 8.000 р.
4. Ахвяраванні ўдзельнікаў IУ Кангрэса Дэмакратычных сілаў 7.047 р.
5. Алена і Мікола Сянькі, Вялікабрытанія 100 дал. ЗША

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічваць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).



№ 31 (468) 9 ЖНІЎНЯ 2000 г. наша слова

Алесь Лозка, прэзідэнт ТБШ

# Як праваліўся "Дыялог"

Кіраўніцтва Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай школы" вырашыла ўдзельнічаць у так званым дыялогу грамадска-палітычных сілаў па пераадоленню канстытуцыйнага крызісу, які ўзнік у выніку так званага рэферэндуму 1996 г., нягледзячы на тое, што не было ўпэўнена ў канструктыўнасці намераў тых, хто спарадзіў гэтую крытычную сітуацыю. Упэўненасць была ў тым, што адклікаючыся на просьбу кіраўніцтва рэспублікі, уцягвацца ў палітычную валтузню, што супярэчыць прынятаму Статуту. Ведаючы, што нядаўняя падобная спроба вырашыць праблему шляхам перамоў з палітычнымі партыямі безпадстаўна перарвана кіраўніком дзяржавы, усё-такі пайшлі на Дыялог і па той прычыне, што ад яго не адмаўляюцца назіральнік КНГ АБСЕ. Калі супраць мірных дэманстрантаў і журналістаў, у тым ліку замежных, была ўжыта антызаконна фізічная сіла, ТБШ выпадкова не выйшла з Дыялогу па той прычыне, што не атрымала слова для афіцыйнай заявы.

Нямала пустых размоў было выслухана і нават на сустрэчы з А.Лукашэнкам. Асабліва сумна і надакучліва слухаць прамовы, якія можна чуць і чытаць штодзённа ў дзяржаўных СМІ. І вельмі сумніцельна, што гэтым асобам патрэбен на самой справе дыялог і хочацца ім чуць чужую думку. Большасць з іх падкрэслівала, а то і бессаромна бэсціла апазіцыю за тое, што яна не прыйшла на Дыялог (чытай – маналог). Некаторыя так прывыклі гэта рабіць яшчэ і на радыё і тэлебачанні, бо ведаюць, што тут ні там ніхто іх не спыніць, не ўкажа на памылкі і хлусню.

Наглядаючы за працай пленарных пасяджэнняў і аналізуючы праекты матэрыялаў, напрацаваныя экспертнымі групамі, нельга не заўважыць, што ўсё гэта не адпавядае асноўнай мэце: выкананню ўмоў для правядзення законных свабодных і справядлівых выбараў, што былі сфармуляваны ў Санкт-Пецярбургскай дэкларацыі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ і Выніковым дакуменце Стамбульскага Саміту кіраўнікоў дзяржаў АБСЕ, а таксама ў дакуменце Тэхнічнай канферэнцыі па сітуацыі ў Беларусі.

Адным з важных пунктаў рэкамендацый міжнародных структураў з'яўляецца: забяспячэнне рэальнага доступу апазіцыйных партый і недзяржаўных грамадскіх арганізацый да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Гэтая выснова абсалютна справядлівая, бо вынікае з той рэальнасці, што падаткі, на якія існуюць дзяржаўныя органы, плоцяць усе. Значыць народу неабходна ведаць увесь спектр думак, якім ён прадстаўлены. Такімі прынцыпамі і кіруюцца ў дэмакратычных краінах. Нават ужо расійскі глядач тэлебачання не ўяўляе блакітны экран без штодзённай прысутнасці на ім апазіцыйных жырыноўцаў, яблачнікаў, камуністаў... А колькі дыскусійных перадач на каналах электронных СМІ, "лялькі" і г.д. Пра такі стан у нас мы і баімся падумаць. Затое добра думае наш чыноўнік: у інтэлектуальнай дыскусіі ён прайграе любому дэмакратычнаму лідэру і праўду зведае народ.

Нягледзячы на тое, што ў "Дыялозе" сабрана шмат людзей, якія не ўяўляюць рэальнага стану падзей, мэтаў мерапрыемства, усё-такі сітуацыя склалася не простая, тупіковая. Вось, напрыклад, па СМІ. Экспертная група, якую ўзначальваў вядомы палітык А. Фядута, напрацавала нямала дакументаў. Аднак яна, зыходзячы са свайго складу. не магла прапанаваць праекты, якія б адпавядалі вядомым рэкамендацыям. Таму мне ўдалося выступіць і заклікаць удзельнікаў пленарнага пасяджэння не прымаць рашэнне. Галасы раскладаліся такім чынам, што рашэнне яго прыйшлося адкласці. На наступным пасяджэнні экспертнай групы нам пры падтрымцы кіраўніка ўдалося цудам правесці пункт аб рэкамендацыі адпаведным органам і структурам рэгламентаваць доступ зарэгістраваных ва ўстаноўленым парадку палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў да дзяржаўнага тэлебачання і друкаваных сродкаў масавай інфармацыі, а таксама ўвесці шэраг дыскусійных праграм з удзелам выразнікаў розных думак па абмеркаванню надзённых праблемаў развіцця дзяржавы і грамадства.

Асабліва адрознівалася антыдэмакратычнасцю апошняе пленарнае пасяджэнне з боку старшынствуючага генерала А. Баранкевіча, які даваў словы амаль толькі прадстаўнікам улады і не ставіў на галасаванне праекты. У сувязі з тым, што менавіта прадстаўнікамі ўлады аспрэчвалася тая частка прапаноў, якая давала магчымасць прыходу апазіцыі да дзяржаўных СМІ, мне патрэбна было выступіць у абарону іх як аўтару. Але да мікрафона не дапускалі, хаця і быў запісаны загаддзя на выступленне. Прыйшлося ўсё-такі ўзяць слова, выкарыстаўшы напорыстасць і ўслед за А.Фядутам заявіць аб тым, што няма сэнсу працягваць далей працу. Бок улады робіць больш касметычныя і нязначныя папраўкі, якія далёка не адпавядаюць рэкамендацыям міжнародных структураў. Напрыклад, з праекту выкідваюцца асноўныя палажэнні, якія даюць права доступу апазіцыі да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. З аднаго боку юрыст гаворыць, што гэта рабіць нельга, бо супярэчыць існуючаму заканадаўству. Нібы дзеля гэтага мы і сабраліся, каб прапанаваць змены ў ім. А з другога боку кіраўнік СМІ сп. Падгайны задае пытанне, ці хадзіў Лозка да рэдактара "Народнай газеты", які не мігнуўшы вокам, адказвае, што першы раз мяне бачыць. Справа нават не ў тым, што гэтая дзяржаўная газета ўстрымлівалася друкаваць інфармацыю ТБШ 1998 г. аб конкурсе школьных сачыненняў "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай...", якую ўсё-такі некаторыя дзяржаўныя СМІ надрукавалі. І нават мне давялося быць у кабінеце рэдактара Шыманскага разам з яго супрацоўнікам рэдакцыі, які рыхтаваў мой матэрыял. Мы пераконвалі аб карысці друкавання на старонках газеты "Беларускага народнага календара", самай нейтральнай тэмы, якая працуе на асвету забітага народа. Уся справа ў тым, што шаноўныя ці не ведаюць рэальнай сітуацыі, ці прыкідваюцца такімі. Але гэта ж можна папраўць. Паклічце, сп. Падгайны, мяне ці каго-небудзь з апазіцыі на тэлебачанне на адкрыты дыялог. Гэтым адкрылі б шлях для свабодных дыскусій, як гэта робіцца на расійскім тэлебачанні. Ці слабо?! Сп. Шыманскі, ці гатовы Вы прыняць цыкл маіх матэрыялаў па беларусатэрапіі, якія адпавядаюць прынцыпам дзейнасці ТБШ па культурна-асветнай працы.

Але, мне здаецца, што нічога гэтага не будзе. Бо "Дыялог" закончыўся, нібы пайшоў на вакацыі, як аб'явіў Посахаў. Ціхенька спусціўся на тармазах – так у такім выпадку гавораць. А лепш было б сказаць, што "Дыялог" праваліўся. Пры гэтым не было прынята аніводнай пастановы, акрамя аднаго вельмі сумніўнага і двухсэнсоўнага звароту (яго падпісала толькі невялікая частка ўдзельнікаў). Зусім не была ўдзелена ўвага беларускамоўным праблемам.

---

МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ — МИНИСТЕРСТВО ЮСТИЦИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

220048, г. Мінск, Калектарная, 10. Тэл. 220-97-55 факс 220-86-94 — 220048, г. Минск, Коллекторная, 10. Тел. 220-97-55 факс 220-86-94

17.07.2000 № 06-10/1351

**Рада Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", 220005, г.Мінск, вул.Румянцава, 13.**

Пісьмовае папярэджанне

Як стала вядома Міністэрству юстыцыі Рэспублікі Беларусь з аналізу карэспандэнцыі, Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" карыстаецца бланкам на якім учынена назва гэтай арганізацыі, не адпавядаючая статутнай. На пячатцы арганізацыі размешчана сімволіка, якая адрозніваецца ад зарэгістраванай.

Гэтым парушаны патрабаванні пунктаў 1.1. і 1.6 Статута дадзенага грамадскага аб'яднання, артыкулаў 4 і 12 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях".

У сувязі з выкладзеным і кіруючыся артыкулам 28 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях" Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь выносіць Радзе Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" пісьмовае папярэджанне.

Аб прынятых мерах прапануем інфармаваць Мінюст Беларусі ў месячны тэрмін.

Адначасова растлумачваем, што ў выпадку паўторнага на працягу года ўчынення дзеянняў, за якія ўжо выносілася пісьмовае папярэджанне, можа быць узнята пытанне аб ліквідацыі Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".

Разам з тым звяртае Вашу ўвагу на граматычную памылку ў напісанні назвы сталіцы нашай краіны на бланку арганізацыі.

***Намеснік начальніка Упраўлення грамадскіх аб'яднанняў Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь А.В. Караткова***

---

**"21" ліпеня 2000 г. № 522**
**Спадару Варанцову Г.М. Міністру юстыцыі Беларусі**
**# 10, Калектарная 220048 Мінск**

**Паважаны Генадзь Мікалаевіч!**

Кіраўніцтва ТБМ атрымала Вашае пісьмовае папярэджанне ад 17.07. 2000 г. за № 06-10/8351.

Нам вельмі прыемна, што падначаленыя Вам супрацоўнікі Ўпраўлення грамадскіх аб'яднанняў, нягледзячы на летні перыяд адпачынкаў, пільна сочаць за нашай карэспандэнцыяй і нават знаходзяць у ёй граматычныя памылкі.

Зразумела, што ў месячны тэрмін кіруючыя органы нашай арганізацыі разгледзяць Вашае папярэджанне і дашлюць Міністэрству юстыцыі адпаведную інфармацыю.

Аднак мы не зразумелі сутнасці гэтага папярэджання і просім у дзесяцідзённы тэрмін даць нам патлумачэнні па наступных пытаннях.

1.Паколькі мы не ведаем такіх нашых бланкаў, дзе б назва нашай арганізацыі не адпавядала статутнай, просім Вас даслаць нам копію аднаго з бланкаў і канкрэтна патлумачыць, што менавіта палічылі неадпаведным Статуту ТБМ ва Ўпраўленні грамадскіх аб'яднанняў.

2. Пячатка нашай арганізацыі мае выяву цэнтральнай часткі нашай сімволікі (гэта герб Францішка Скарыны) і афіцыйна выробленая з дазволу органаў унутраных спраў. Таму мы таксама не разумеем Вашых прэтэнзій і просім іх канкрэтызаваць. Дарэчы, ёй ТБМ карыстаецца ўжо дзесяць гадоў і ніколі заўваг з Вашага боку на гэты конт не атрымлівала.

Калі нашае Таварыства не атрымае ад Вас канкрэтных, а не агульных заўваг, то гэтае папярэджанне будзе зразуметым як звычайны пераслед нашай арганізацыі за дзейнасць на карысць беларускага адраджэння, якая, мабыць, вельмі не падабаецца пэўным палітычным колам краіны.

Таксама мусім звярнуць Вашу пільную ўвагу на аздабленне афіцыйнага канверту Міністэрства юстыцыі, у якім было дасланае ў сядзібу ТБМ вышэйзгаданае папярэджанне.

1. Наш адрас чамусьці быў пазначаны не моваў тытульнай нацыі – беларускай, якая, калі мы не памыляемся, пакуль яшчэ з'яўляецца дзяржаўнай.
2. Зваротны адрас Міністэрства юстыцыі выраблены адмысловым штампам, які выкананы толькі па-руску.

На нашу думку, гэта стварае перашкоды і вядзе да абмежавання ў вольным карыстанні дзяржаўнай беларускай моваў тых грамадзянаў Беларусі, якія ў сваім будзённым жыцці карыстаюцца толькі ёю (каля 37% жыхарства краіны), а таксама абражае нацыянальныя пачуцці не менш як 80% беларусаў, якія лічаць гэтую мову сваёй роднай. Такія дзеянні Міністэрства юстыцыі, дзяржаўнай установы, якая ігнаруе на сваіх афіцыйных канвертах мову тытульнай нацыі краіны, дзяржаўную беларускую мову (дарэчы, падобнага не назіраецца ў такіх дзяржаўных установах як Міністэрства абароны, Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь дзе шэраг іншых, з якімі ТБМ мела афіцыйнае ліставанне), паводле нашага меркавання, трапляюць пад артыкул 172/2 Кодэксу Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных праваапарушэннях. Таму ласкава просім Вас канвертаў у падобным выглядзе нам болей не дасылаць, а таксама, улічваючы факт, што сярод жыхарства Беларусі выключная бальшыня (болей 80%) з'яўляецца беларусамі, спыніць іх распаюд у межах краіны, каб не ўзнікла пярэчанняў з артыкулам 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

З павагай.

**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

Дадатак на 3 (трох) аркушох:

1. Копія Пісьмовага папярэджання Міністэрства юстыцыі – Таварыству.
2. Копія афіцыйнага канверта Міністэрства юстыцыі.
3. Копія Закона Рэспублікі Беларусь аб унясенні дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных праваапарушэннях.

# Літаратурная старонка "Нашага слова"

## "БЕЗ ЦЯБЕ ПРАЖЫЦЬ НАМ НЕМАГЧЫМА..."

Напэўна, усё самае звонкае, як той крынічны струменчык, чыстае ад зіхоткага нябеснага блакіту і сонца, непаўторнае па сваёй прыроднай сутнасці нараджаецца толькі вясною. "Купалінка" таксама нарадзілася ў гэты час - час вясновага абуджэння. Шэсць гадоў таму.

Хто такая "Купалінка"? "Купалінка" - гэта літаратурная суполка. Яе адрас - Менскі раён. Як вясновую раку нельга ўявіць без ручайкоў, што звонка збягаюцца адусюль, шчодра папаўняюць яе, так і літсуполку "Купалінка" нельга ўявіць без шматлікіх літаратурных гурткоў, малых і вялікіх, якія створаны ў школах раёна, і якія ніколі не цураюцца сваёй старэйшай сястры, збіраюцца пад яе дахам (найчасцей у памяшканнях Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, Літаратурнага музея Янкі Купалы і Літаратурнага музея Якуба Коласа, якія ахвотна і гасцінна - дзякуй ім! - даюць магчымасць праводзіць тут пасяджэнні літсуполкі), каб сэрцам дакрануцца да тых скарбаў нацыянальнай літаратуры, што беражліва захоўваюцца ў іх, да таямніц творчасці выдатных майстроў мастацкага слова, каб падзяліцца адзін з адным здабыткамі сваёй творчасці, падвучыцца майстэрству, паслухаць парады пісьменнікаў. Старэйшыя сябры па пяру ніколі не адмаўляюцца ад сустрэч з імі, пачаткоўцамі.

З першымі пробамі пяра сяброў "Купалінкі" знаёмы ўжо чытачы часопісаў "Бярозка" і "Вясёлка", газеты "Раніца" і "Зорка". Іх творы неаднойчы гучалі ў радыёперадачы "Першыя сняжынкі". Аб чым пішуць яны? Кола тэм - самае шырокае. Але ёсць адна, якая сустракаецца ў іх творах, напэўна, часцей за іншыя. Гэта - вершы пра нашу родную Беларусь, вяснянку-мову, пра ўсё, што з маленства блізкае і дарагое нашаму сэрцу. Не здзіўляйцеся, што часам радкі юных паэтаў прасякнуты трывогай за іх лёс, за іх будучыню, і выказваюць яны свае думкі і пачуцці надзвычай эмацыянальна: "Не, не пройдзем, як забойцы, міма, без цябе пражыць нам немагчыма, мы цябе прадоўжым, як свой род!"; "Людзі не бачаць бяды, якая нас поіць і корміць", "Людзі стаяць на мяжы росквіту ці папялішча".

Можа, такія хваляванні і не дарэмныя? Можа, у іх радках і ёсць доля праўды?

*Мікола Чарняўскі, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра, кіраўнік літсуполкі "Купалінка".*

**БЕЛАРУСЬ**

Беларусь - дарагая Радзіма,
Ты заўсёды, заўсёды са мной.
Нашу ў сэрцы ўрачыста і міла -
Воблік твой,
Воблік твой.

І лугі, і лясы, і палеткі -
З імі сэрца заўсёды маё.
І пахучыя летнія кветкі,
Што зімою сняжком замяло.

Можа, недзе ёсць гэткія птушкі
І такія лугі ды лясы,
Але ў роднай маёй Беларусі -
Больш за ўсё іх чароўнай красы!

Беларусь! Дарагая Радзіма!
Ты заўсёды, заўсёды са мной!
Нашу ў сэрцы ўрачыста і міла -
Воблік твой,
Воблік твой.

*Юлія Рамановіч,*
*Навапольская СШ.*

**МОЙ РОДНЫ КУТОЧАК...**

Мой родны куточак,
Ты мілы для сэрца,
Пляце тут вяночак
Вясна ля акенца.
Тут сонейка свеціць
Ярчэй і цяплей.
Няма больш у свеце
Куточка мілей.

*Аксана Гідрэвіч,*
*Міханавіцкая СШ, 6-ы "А" клас.*

**МОВА МАЯ РОДНАЯ...**

Вяснянка-мова, родная, любімая,
Ты для мяне на свеце ўсіх мілей,
Самая ласкавая і дзіўная, -
Побач крочым па жыцці далей.

Ты адчыніш у будучыню дзверы,
Разам мы абыдзем цэлы свет.
Будзем разам - нам усе павераць:
Не загінеш, свой пакінеш след!

Покуль ты гучыш - жыве Радзіма,
Звычаі, традыцыі, народ.
Не, не пройдзем, як забойцы, міма,
Без цябе пражыць нам немагчыма,
Мы цябе прадоўжым,
Як свой род?

*Віталь Кузьміцкі,*
*Навапольская СШ, 8-ы клас.*

**СТАРОНКА МАЯ...**

Мы - Беларусь, такі народ,
Не згінем у бядзе.
Кудысьці крочам з году ў год,
А час, ён шпарка йдзе.

Старонка пушчаў і лясоў,
Дзе ёсць баравікі.
Радзіма слуцкіх паясоў,
Вядомых праз вякі.

Вялікі боль народ спазнаў,
Прайшоўшы праз вайну.
Як дзецям долю здабываў,
Дык гора не мінуў.

Жытнёвы хлеб нішмат рублёў
Калісьці каштаваў.
Ды толькі хлеба ад палёў
Ніхто нам не даваў.

А чорны бохан той дастаць
Мы часам не маглі.
Хоць на руках заўжды гараць
Ад працы мазалі.

Паклон табе, мой родны край,
Старочачка мая!
Ты долю лепшую спазнай,
Якой і мне хоць трошкі дай,
Каб расцвіла і я.

*Юлія Уласенкава,*
*Дубаўлянская СШ, 8-ы "А" клас.*

**ПОЛАЦК - ТО ЛЮБОЎ МАЯ**

Хай павядуць мяне сцяжынкі
У край, мне мілы, да Дзвіны,
Да роднай мамачкі Ірынкі,
Дзе звоняць музыкай званы.

Парыў мой сэнс глыбокі,
Бо Полацак - любоў мая.
У ім жыццё майго вытокі,
Адтуль прыйшла мая сям'я.

Мяне даўно ў той край далёкі
Усё клічуць прашчураў агні,
Бо там дасюль, ад першых крокаў
Жывуць нашчадкаў карані.

Вядуць да спадчыны сцяжынкі
У край дзяцінства, любы мне.
Хачу ляцець туды пушынкай,
Да дрыгвічаў, да іх будынкаў, -
І радасць сэрца не міне!

*Юлія Уласенкава,*
*Дубаўлянская СШ.*

**РОДНАЯ МОВА**

Мова - гэта фарбы, гэта - скарб народа.
Гэта - колер, водар, прыгажосць зямлі.
Гэта самабытная прырода:
Птушкі, лес, палеткі і лугі.
Мова - гэта чыстая крыніца,
Гэта чалавечая душа.
Гэта - сінь, што васільком іскрыцца,
Гэта - бель сняжынак, шэрань і імжа.
Гэта ўсё, што побач,
Гэта ўсё, што ў марах.
Гэта - найвялікшае цуда на зямлі.
Гэта - слоў разводдзе, што ў душу запала,
Гэта ўсё, што прадзеды зберагчы змаглі.

*Святлана Іванчанка,*
*Навапольская СШ.*

**ВОДАР ЗРАБІЦЬ - ЗА НАМІ !..**

Зоркі пагаслі ўжо,
Сівер разбойна свішча.
Я пад напеў струны
Скрыпку разбітую клічу.

Клічу, каб розум дала
Нам, Белай Русі, людзіне.
Клічу, каб долю знайшла,
Бо спадзяванне загіне.

Чую я спеў струны,
Гукі ў цямноце блукаюць.
На раздарожжы яны
Шлях у жыццё выбіраюць.

Людзі не дбаюць аб тым,
Што нам душу абароніць.
Людзі не бачаць бяды,
Якая нас поіць і корміць.

Колькі нам цудаў дала
Веліч культур і традыцый!
Кніга заўсёды вяла
Ў край, дзе паданняў крыніцы.

Наша мастацтва жыве,
Наша паэзія з намі.
Час жа няўмольна плыве,
Выбар зрабіць - за намі!..

Гукі лунаюць: яны
Маюць свае аблічча.
Людзі стаяць на мяжы
Росквіту ці папялішча.

*Вольга Сасункевіч,*
*Міханавіцкая СШ.*

*Стах Ожуг*

***НАДЗЕЯ***

***Ты прыйдзеш аднойчы***
***Бледная яшчэ ранкам,***
***У тваіх валасах будуць шматкі ночы,***
***Без грукату ты ўвойдзеш у мой сон,***
***І тады стануць няважнымі***
***Ўсе дні без цябе,***
***Ты прынясеш мне жменю пытанняў,***
***Пра якія мы ведаем ад нараджэння...***
***У той дзень ты не прыйшла,***
***Таму можа***
***заўтра.***

***ВЯРТАННЕ***

***Я люблю, калі ты гаворыш***
***І пры гэтым так ціха,***
***Так, што нават крык маўчыць, і калі***
***Ты засынаеш у таямнічай далоні***
***Сваёй прыдуманай мары.***
***Люблю таксама, калі ты плачаш,***
***Тады слёзы твае***
***Танчаць ува мне блакітную рапсодыю***

***Нават, калі ты маўчыш,***
***Я ведаю, пра што крычаць твае вочы:***

***Ты абудзілася ад сну.***

***ГАВОРАЦЬ***

***Яна адышла***
***Кропляй слова, пухам снегавым,***
***Без пацалунку,***
***І кветкі захварэлі на інфаркт.***
***Яна адышла ціха,***
***Так ціха,***
***Як цвік, што песціць разадраную далонь...***
***Калісці яна вернецца***

***ВАНДРОЎКА***

***З букетам палявых успамінаў ля твару***
***Цяжка дыхаючы я ўлез на сонечны ўзгорак,***
***Я шукаў***
***Нашыя цёплыя дні ўсмешкі.***
***З цяжкасцю я знайшоў мары якія крапіва***
***Даўно атуліла клопатам.***
***Я паклаў некалькі слоў на твае персі.***

***Пераклад з польскай Алены Расолька.***

## Яська ўваскрослы, спадар з-пад Вільні

Нядобрай волі нашае вызнаньне:
Здранцьвелаю Марыся доўга сьпіш,
Гаротных дзён, пакутнага блуканьня
Наканаваны мусіш несьці крыж.

Німашака мінулай прыгажосьці,
У дамавіне спарахнелы прах,
Дарма я непакою твае косьці,
Разносячы па краі трупны пах.

Але ж і я прыйшоў з другога сьвету.
Мой дух, Марысю, тога не міне.
Хто перапросіць Бога за паэту?
Лукішскі пляц згадае і мяне!

"З-пад шыбеніцы" верш мой прачытае,
Там я казаў няпраўду: "...ўсё прайшло".
Не, быў бы дождж - насеньне прарастае.
Зялёнай руньню збожжайка ўзышло.

І ганьбаю паліты мой народзе
Шыхты рыхтуе на рашучы бой.
Як першае каханьне не праходзіць -
Марыся, я ўваскрос,
і я з табой!

*Уладзіслаў Я.*

# "Аўцюкі - 2000"




16 - 17 ліпеня ў Калінкавіцкім раёне прайшоў III Усебеларускі фестываль народнага гумару "Аўцюкі-2000".

**На здымку:** выступаюць артысты мастацкай самадзейнасці.

**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

# Вандроўка на выставу

Я іду па Менску на выставу, якая адкрылася ў Чырвоным касцёле. Настрой у мяне ўзняты, радасны. А вось і плошча Незалежнасці, і сам касцёл святых Сымона і Алены, збудаваны ў стылі готыкі. Прыгожая архітэктура. Велічны касцёл у сваёй прыгажосці і знутры. З залы, дзе праходзіць служба, я заходжу па лесвіцы ў памяшканне, дзе і месціцца выстава. Парцеры пры ўваходзе, масіўныя калоны, што падтрымліваюць столь (бо гэта ж пад першым паверхам!), а на сценах у цьмяным святле (бо гарэла толькі адна лямпа) карціны – усё гэта стварае атмасферу загадкавасці і таямнічасці. Але, да справы! У гэтай зале выстава Алеся Цыркунова – мастака-жывапісца, сябра творчай суполкі "Пагоня" Саюза мастакоў Беларусі. У выставах ён удзельнічае з 1976 г., па заканчэнні Беларускай Акадэміі мастацтваў. Мае шмат выстаў у Беларусі і за яе межамі. Для яго жывапісу характэрна багатая каларыстычная палітра. Выступае актыўна ў розных жанрах. Асаблівая ўвага надаецца гістарычнай тэме сваёй Айчыны. Іншыя тэмы сучаснасць, вайна, рэлігія, міфалогія, каханне, прыгажосць.

Гармонія і суладдзе – галоўная мэта яго твораў, чаго так не стае ў жыцці і па чым здавён смуткуе душа чалавечая. Для гэтага спасцігаюцца каштоўнейшыя здабыткі айчыннай і сусветнай культуры: мастацтва, філасофія, літаратура – іх самастойнасць і ўзаемасувязь. Шмат карцін, але ёсць такая, якая мяне ўразіла асабліва. "Над Віцьбай" – гэта краявід Віцебска на берагах Заходняй Дзвіны. Не ведаю чаму, але ўражанне ад карціны стваралася такое, быццам я ізноў стаю на беразе Дзвіны і бачу ўсё сваімі вачамі. Вунь там, на ўзгорку помнік, загінуўшым у баях салдатам – Тры штыкі, лесвіца, якая выходзіць да самой Дзвіны, зелень паўсюль, высотныя дамы на берагах, прайшоўшы дождж, хмары, якія разыходзяцца па небе і вясёлка з аднаго боку неба. Прыгожасць і замілаванне непаўторныя. "Клятае месца" – уражвальная карціна. Страшныя, цёмныя хмары на небе, зламаныя, павaленыя навальніцай чорныя, голыя дрэвы, чорнае неба, бліскі ўводдаль маланкі, выкінутая труна, а наводдаль на ўзгорку – скляпенне, якое, пэўна, месца пахавання. "Барысаглебская царква ў Навагрудку" – прыгожы белы храм на фоне блакітнага неба і зеляніны дрэў.

"Абуджэнне" – увасабляе сабой абуджэнне прыроды пасля ночы. Мяккія, залацістыя промні сонца на траве, дрэвах, дарозе паступова разганяюць сумрак ночы.

Наступная зала – таксама выстава, але ўжо іншая – выстава твораў Віктара Пакаташкіна. Нарадзіўся ён у 1948 г. у Гомелі, з дзяцінства займаўся жывапісам, але па адукацыі ён фізік, скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Жыве ў Менску, працуе ў Нацыянальным навукова-даследчым цэнтры манітарынгу азонасферы. Любімая справа – жывапіс, якім займаецца ў свабодную гадзіну. Гэта – яго першая выстава. Яна падсумоўвае значны перыяд яго творчасці і раскрывае светапогляд аўтара на родную прыроду. Большасць яго карцін адлюстроўваюць наш звычайны, мілы сэрцу, беларускі краявід. Мастак дэманструе нам эмацыянальнае, але разам з тым і рацыянальнае ўспрыманне прыроды. У яго творах не толькі назіранні за прыродай, але адлюстроўваюцца таксама думкі і перажыванні аўтара.

Шмат карцін адлюстроўваюць поры годы, проста нацюрморты, або, што вельмі рэдка, прыгажосць архітэктуры "Брама Нясвіжскага замка". Брама разглядаецца як бы збоку, добра перадаюцца таны: жоўта-бледны колер брамы і ўсяго Нясвіжскага замка, зеляніна рвоў, дрэў, рэзкая акрэсленасць моста над ірвом. Цікавая дэталь: на яго карцінах няма людзей, яны прысвячаюцца толькі прыгажосці і вечнасці прыроды, яе велічнасці. Адзінае выключэнне – яго аўтапартрэт, які адкрывае выставу.

"Сланечнік" – у збане з крышталю стаіць сланечнік, на падваконні... "Восеньскі нацюрморт" – у збаночку, зноў на падваконні стаяць восеньскія астры – апошняя прывітанне лецейку, побач два восеньскіх чырвонабокіх яблыкі.

"Водар бэзу" – у гліняным збанку на сурвэтцы галінкі бэзу, так жывапісна намаляванага, што здаецца падыдзі бліжэй і адчуеш яго водар, напоўнены сонечным цяплом. Усе тры карціны – малюнкі-нарцюрморты, аб'яднаныя адной дэталлю: букеты знаходзяцца на падваконні, на фоне акна, быццам бы аўтару так і хочацца выбегчы душою на двор і маляваць, маляваць прыгожасць, падараваную нам вечнасцю. Наступная тэма – гэта вясна, яе надыход. Ёй прысвечаны такія карціны, як "Адліга", "Вада прыбывае", "Сакавіцкі дзень". Яны аб'яднаны агульнымі з'явамі: яшчэ ляжыць снег, але вада прыбывае і яе становіцца ўсё больш, голыя, сонныя пасля зімы дрэвы, агульная шэрасць надвор'я. Цікавы малюнак "Бэз зацвіў" – тут ужо вясна заняла ўсе свае правы, усё патанае ў зяляніне дрэў і паху бэзу. А дом патанае ў зарасніках бэзу, які атульвае яго, як сваімі галінкамі, так і пахам.

Цікавая, па свайму выкананню, карціна "Надвячоркам" – летні дзень блізіцца да завяршэння, доўгія цені ад лесу, ад складзенага ў стагі сена кладуцца на дарогу, у небе з'явіўся месяц, але яшчэ не ноч, гэта летні падвячорак.

Уражанні мае вельмі добрыя, як ад выставы, так і ад касцёла. Калі выходзіла з яго адчула незвычайную заспакоенасць душы. Цудоўнае пачуццё!

*Анжэла Чуйкова, студэнтка БУК.*

НАВІНЫ З ЧЭРЫКАВА

## Пачала працаваць літаратурная гасцёўня ТБМ

Асноўнае прызначэнне нашай арганізацыі – несці светлыя ідэі беларушчыны, садзейнічаць культурна-асветніцкай дзейнасці і фармаванню нацыянальнай самасвядомасці жыхароў горада, а таксама прапагандаваць творы беларускіх дзеячоў літаратуры, культуры і мастацтва.

Таму і вырашылі стварыць літаратурную гасцёўню нашай арганізацыі. Ужо першыя яе наведвальнікі мелі магчымасць пазнаёміцца з файнымі кнігамі ў галіне рэлігіі і духоўнасці (Антоніо А. Барэлі. Фінімская вестка: Трагедыя ці надзея?), абраднасці беларусаў (Крук І.І. Следам за сонцам: Беларускі народны каляндар: Дапаможнік для педагогаў дзіцячых дашкольных устаноў), фотамастацтва Магілёўскай вобласці (Аляксандр Ліцін. Краіна ілюзіяў: Уяўная рэчаіснасць. Гэты фотаальбом змяшчае прафесійныя здымкі сябра Еўрапейскага саюза фотамастакоў "Погляд без межаў", ураджэнца Магілёва Аляксандра Ліціна. Выдадзены фотаальбом пры садзейнічанні Магілёўскай асацыяцыі "Кола сяброў" накладам 100 экзэмпляраў.

Таксама нашым гасцям можна правесці свой вольны час за чытаннем такіх беларускамоўных выданняў, як: штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", газеты ТБМ "Наша слова", выдання Магілёўскага грамадскага аб'яднання "Кола сяброў" "Нота бене" ("Звярні ўвагу"), бюлетэня асамблеі дэмакратычных недзяржаўных арганізацый Беларусі і іншых.

Для тых, каго цікавяць юрыдычныя, прававыя і фінансавыя бакі дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў, мы прапануем такія выданні, як:

-Смалянка В. Падаткаабкладанне грамадскіх аб'яднанняў.

-Станоўскі К. Як пісаць прапанову.

-Веранейчык А., Чарняўскі В. Крыніцы фінансавання.

-Сыч Н. Эканамічны аспект дзейнасці грамадскага аб'яднання.

-Звозкаў Б., Лабановіч Е. Грамадзянін і следства: прававыя і псіхалагічныя аспекты.

Будзем і ў далейшым старанна папоўніць наш фонд новымі цікавымі кнігамі, часопісамі і газетамі на беларускай мове. А ўвогуле, дарагія чэрыкаўцы, заходзьце да нас па адрасу: вул. Савецкая, д.7, цэнтральны ўваход, другі паверх, метадычны цэнтр аддзела культуры, штодзённа з 8.00 да 17.00 г., акрамя суботы і нядзелі.

Літаратурная гасцёўня чакае Вас!

Станіслаў Хахлоў, старшыня Чэрыкаўскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы, старшыня раённага клуба творчай інтэлігенцыі "Натхненне".

# "Матчыны кросны"




У г. Старыя Дарогі Менскай вобласці прыйшло абласное свята-конкурс "Матчыны кросны". У ім прынялі ўдзел народныя ўмельцы - ткачыхі, маладыя рукадзельніцы, выступілі мясцовыя танцавальныя калектывы.

**На здымку:** на сцэне - група самадзейных артыстаў "Таліца" - люстэрка Старадарожчыны.

**Фота Аляксея Мацюшкова, БелТА.**

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацый***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 7. 08. 2000 г.
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 2048
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 147 руб., 3 мес.- 441 руб.
***Кошт у розніцу:*** 40 руб.